ЗАХАПЛЕННІ

# Дэсант уздымае ветразі

## Школьнікі з Маладзечаншчыны мусяць выйсці ў адкрытае мора

*КРАСНАЕ. Былы кадравы афіцэр–дэсантнік Сяргей Люеў з дзяцінства марыў хадзіць пад парусамі. Аднак толькі на пенсіі, 5 год таму, на асабістым агародзе змайстраваў сваю першую лодку. Там жа, у вёсцы Краснае, выпрабаваў судна на малой вадзе. Цяпер афіцэр узначальвае клуб "Парус" раённага Дома дзіцячай творчасці, які працуе на базе Красненскай сярэдняй школы. Кіраўнік і вучні з часам плануюць выйсці ў адкрытае мора.*



*Красненскія хлопчыкі аб'ядналіся ідэяй самастойнага плавання.*

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.



*Былы дэсантнік Сяргей Люеў з дзяцінства марыў выйсці ў мора пад парусамі.*

У клубе ўсе судны самаробныя: тры швертботы, тры катамараны, двухмачтавая шхуна "КЭЧ" з сонечнымі батарэямі (маёмасць кіраўніка). Яшчэ адзін швертбот у вытворчасці.

– На адзін двухмесны пайшло 1200 цвікоў, 4 лісты фанеры, – гаворыць Сяргей Люеў, – фанерай былі абабітыя панелі ў класах, калідоры старога будынка школы. Аддзіралі. А тканіна – нават спісаная, дзіравая, што да нас трапляе, – яшчэ доўга служыць.

Тэхналогія будоўлі суднаў даволі складаная, хаця на словах простая: бяруцца дзве дошкі, надаецца ім нейкая форма. Робіцца насавы і кармавы транец. Яшчэ дзве папярэчныя дошкі вызначаюць месцы экіпажа. Корпус абабіваецца фанерай, шпаклюецца, прапітваецца гарачым пакостам, абклейваецца тканінай, фарбуецца.

– Наогул, такой тэхналогіі не існуе, – гаворыць кіраўнік "Паруса", – я заўсёды быў рацыяналізатарам. Гэтым, бывае, назаляю знаёмым. Напрыклад, калі дзе–небудзь з закручанага крана сочыцца гарачая вада, – лічу, што безгаспадарчасць павінна таксама прыносіць нейкую карысць.

Сяргей Люеў такі з дзяцінства. Разам з бацькамі жыў у сухапутных мясцінах: на Тамбоўшчыне, Смаленшчыне. Займаўся суднамадэлізмам, меў трывалы статус радыёаматара, спартсмена. З 5 класа пісаў у газеты, таму і займеў пасведчанне школьнага карэспандэнта. Міліцыя, кантралёры яго ведалі і бясплатна, без усялякіх пытанняў, прапускалі на масавыя мерапрыемствы.

**– Удзельнікі клуба ва ўсім дапамагаюць, ці ёсць нейкая спецыфічная работа толькі для дарослага?**

– Ёсць. Гэты шыць парусы. Работа катаржная. Маці аднаго вучня прастрачыла тканіну. А потым сказала: "Прабачце, але больш не дапамагу". Шыю сам, для паруса бяру плашчоўку.

"Караблі" ў клубе рознакаляровыя: жоўтыя, ружовыя, сінія. Так весялей. Імёны носяць своеасаблівыя: "Максім энд Віталік" (імёны ўдзельнікаў экіпажа), "Жук" (прозвішча капітана – Жучок).



*Яхты пакуль на малой вадзе. Але красненцы ўпэўненыя ў поспеху свайго прадпрыемства.*

ФОТА З АРХІВА СЯРГЕЯ ЛЮЕВА.

Сёлета судны плавалі на Вілейскім вадасховішчы. Хаця больш выпрабоўваліся не яны, а экіпажы. Аднойчы ўраган застаў клубаўцаў на сярэдзіне вадасховішча. Аднак і кіраўнік, бывае, спецыяльна перакуліць швертбот – няхай вучацца самастойна вяртаць судна ў становішча "на плаву".

– Уся нашая плавучая гаспадарка хутка стане гісторыяй, – гаворыць Сяргей Люеў, – магчыма, раён дапаможа з грашыма, і мы набудзем матэрыял для 7 корпусаў распаўсюджанага ў свеце швертбота "Аптыміст". Пабудуем яго строга па навуцы. А пакуль дырэктар рэспубліканскага парусната цэнтра **Алег Сполан** абяцаў даць швертбот для нагляднасці, каб мы больш дакладна будавалі свае.

На занятці ў клуб былы дэсантнік ходзіць у форме. Ды і клубаўцам (7–11–класнікам) купілі цяльняшкі, якімі яны вельмі ганарацца. На восеньскія школьныя канікулы "Парус" запрасілі на паказальныя выступленні, якія пройдуць у Мінску на Камсамольскім возеры.

**– Ваш яхтклуб знаходзіцца ў "сухім" месцы. Гэта неяк незвычайна. Ці вы так не лічыце?**

– Я так не лічу. Мы дабярэмся да любой вялікай вады. Галоўнае – гэта цікавасць дзяцей да справы, матэрыяльная падтрымка. За яе мы вельмі ўдзячныя дырэктару Красненскага кансервавага завода Ірыне Сінельнікавай. А што тычыцца мяне, да мэты ісці, нягледзячы на цяжкасці, мы, вайскоўцы, звыклыя.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

**МАЛАДЗЕЧНА.** Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) 6.10 | 13.10 |
|---|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 620 | 620 |
| Кілбаса салямі | 1 кг | 1390 | **1390** |
| Сасіскі | 1 кг | 945 | **945** |
| Селядзец салёны | 1 кг | 525 | **540** |
| Рыс | 1 кг | 350 | **370** |
| Цукар | 1 кг | 200 | **200** |
| Грэчка | 1 кг | 500 | **540** |
| Алей | 1 л | 480 | **480** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 185 | **200** |
| Маянэз | 250 г | 80 | **80** |
| Кава "Пеле" | 100 г | 525 | **650** |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 180 | **210** |
| Соус там. «Мінскі» | 0,5 л | 180 | **180** |
| Лімоны | 1кг | 560 | **570** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | 180 | **260** |
| Масла | 1 кг | 900 | **1000** |
| Тварог | 1 кг | 280 | **280** |
| Малако | 1,5 л | 110 | **110** |
| Бульба | вядро | 420 | **420** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 240 | **240** |

яблыкі .......... 1 кг .......... 100
кавун .......... 1кг .......... 80
капуста .......... 1 кг .......... 55
морква .......... 1 кг .......... 140
памідоры .......... 1 кг .......... 180
перац .......... 1 кг .......... 190
цыбуля рэпчатая .......... 1 кг .......... 130
вінаград .......... 1 кг .......... 360
курага .......... 1 кг .......... 900

ХАРЧАВАННЕ

# Танныя абеды скончыліся

СМАРГОНЬ. Таннымі абедамі ў сталовай ААТ "Смаргонскі камбікормавы завод" да нядаўняга часу частаваліся не толькі працаўнікі прадпрыемства, але і шматлікія вяскоўцы і гараджане. Была яна 3–й нацэначнай катэгорыі з надбаўкамі да 30%.

З гэтай прычыны завод меў даволі значныя страты. Таму ён звярнуўся ў райвыканком з просьбай перавесці сталовую на другую нацэначную катэгорыю, надбаўкі ў гэтым выпадку можна ўзнімаць да 70 працэнтаў. Выканком падтрымаў, але парэкамендаваў кіравацца ў рабоце прадпрыемства харчавання надбаўкамі не больш за 50%. У любым выпадку, абеды прыкметна падаражэлі.

*Павел МАКЛЮК.*

БЕСПРАЦОЎЕ

# Ёсць вакансіі для беспрацоўных

СМАРГОНЬ. У горадзе ёсць 454 працоўныя вакансіі, пераважна для мужчын. Аднак скарыстацца магчымасцю атрымаць сталае працоўнае месца смаргонскія беспрацоўныя не надта спяшаюцца.

Адных задавальняе дапамога па беспрацоўі ды грамадскія работы, іншыя тым ці іншым чынам ужо прыстасаваліся да новых умоў жыцця.

Адбою няма ад жадаючых выехаць у калгасы на ўборку бульбы. Разам з беспрацоўнымі да цэнтра занятасці кожны дзень прыходзяць дзесяткі занятых людзей. Калгасы і саўгасы разлічваюцца бульбай, што ў сёлетніх умовах немалаважна.

Увогуле, сёлета на грамадскія работы планавалася накіраваць 2000 чалавек, у тым ліку, 1000 беспрацоўных. Толькі за дзевяць месяцаў удзел у гэтых работах узялі 1812 чалавек, у ліку якіх 634 беспрацоўныя. Цэнтр занятасці мае 114 дагавораў на розныя работы з прадпрыемствамі, арганізацыямі, установамі, сельскагаспадарчымі структурамі.

Усяго за дзевяць месяцаў беспрацоўныя працавалі больш чым па 100 адрасах.

*Павел МАКЛЮК.*

# Дапамажыце адшукаць

МАЛАДЗЕЧНА. Маладзечанскі РАУС на транспарце адшуквае Штырхунова Івана Віктаравіча, 1940 года нараджэння, які прапаў без весткі. Ён жыў па адрасе: Калінінградская вобласць, Гусеўскі раён, пас. Междурэчча.



Яго прыкметы: на выгляд 50–60 год, сярэдняга целаскладу, валасы русыя, адсутнічае большасць зубоў, твар авальны, на шыі, ілбе – шрамы ад апёкаў, рост каля 170 сантыметраў.

Быў апрануты: куртка карычневая, падоўжаная, шэры касцюм у клетку, кашуля блакітная, туфлі чорныя. Пакутаваў на псіхічныя захворванні.

Просім грамадзян, якім што–небудзь вядома пра месцазнаходжанне Штырхунова І. В., паведаміць у Маладзечна па тэл. 42416, 42357 або ў бліжэйшы аддзел міліцыі па тэл. 02.

КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

# Суд над забойцам

СМАРГОНЬ. Тут прайшло выязное пасяджэнне Гродзенскага абласнога суда. Разглядалася справа аб замаху на забойства. На лаўцы падсудных апынуўся 58–гадовы жыхар Смаргоні, які раней адбываў пакаранне за забойства.

У лістападзе 1994 года ён люта збіў сваю жонку, якая ад пабояў памерла ў кватэры. За гэтае злачынства ён быў асуджаны да пазбаўлення волі. Аднак там асуджаны прабыў нядоўга. Спачатку па амністыі тэрмін скарацілі, а потым забойцу вызвалілі ўмоўна–датэрмінова ад астатняй часткі.

Калі асуджаны вярнуўся дадому ў лістападзе 1998 года, у яго кватэры жыла дачка са сваёй сям'ёй. Адносіны з бацькам, які забіў маці, не склаліся. Гэтаму садзейнічала і тое, што бацька не адмаўляў сабе ў спіртных напітках. У час чарговай сваркі бацька накінуўся з нажом на зяця, нанес яму некалькі нажавых раненняў. На шчасце, медыкі спрацавалі аператыўна і хлопец застаўся жыць.

Падсудны вінаватым сябе не прызнаў. Аднак у распараджэнні суда было дастаткова доказаў, каб выявіць усе абставіны злачынства і вырашыць пытанне аб вінаватасці. Суд вызначыў меру пакарання ў выглядзе пазбаўлення волі тэрмінам на 15 год і 6 месяцаў. Была далучана і неадбытая частка пакарання. Падсудны, па заключэнні нарколагаў, прызнаны хранічным алкаголікам, таму ў месцах пазбаўлення волі да яго будзе прыменена прымусовае лячэнне ад алкагалізму. Акрамя таго, па іску пракурора спагнаны на карысць бальніцы кошт лячэння пацярпелага ў памеры 8845 тысяч рублёў.

Тэрмін пакарання можа падацца невялікім, аднак для 58–гадовага мужчыны гэтага дастаткова. Тым больш, што спадзявацца на датэрміновае вызваленне цяпер не прыйдзецца.

*Мікіта ЛІСТАПАД.*

У ВОЛЬНУЮ ХВІЛІНУ

# Крыжаванка

ад Ірыны Буцер, Маладзечна



**Па гарызанталях:** 2. Сасновы лес. 4. Член царкоўнай абшчыны. 6. Спецыяліст па кулінарыі. 8. Падоўжны брус, які праходзіць па ўсёй даўжыні судна. 9. Дадатны электрод. 11. Памешчык. 12. Напітак з мякаці яблыкаў. 14. Насавая частка верхняй палубы судна. 16. Насельніцтва дзяржавы. 18. Сорт каменнага вугалю. 20. Абласны цэнтр у Расіі. 21. Апошняя літара грэчаскага алфавіта. 22. Драпежная птушка. 23. Група цыганскіх сем'яў. 25. Нагрувашчванне на дарозе. 27. Перыяд у тэнісе. 28. Вада ў стане кіпення. 30. Рака ў еўрапейскай частцы Расіі. 31. Будыйскі манах. 33. Чырвоная качка. 35. Горад, абласны цэнтр у Расіі. 37. Буйны населены пункт. 38. Вярблюд.

**Па вертыкалях:** 1. Нізкарослы конь. 2. Плаўны танец. 3. Пачатак дня. 4. Свойская жывёла. 5. Тытул манарха. 6. Тое, што і кінафільм. 7. Рабочае адзенне. 8. Спецыяліст па праектаванні караблёў. 10. Дамоўленасць. 11. Двухбаковы дыван без ворсу. 13. Музычна–драматычны твор. 15. Свяшчэнная кніга мусульман. 16. Расліна. 17. Падарунак. 18. Шаўковая празрыстая тканіна. 19. Выбуховае рэчыва. 24. Часцінка хімічнага элемента. 26. Кампазітар, балет "Жызель". 28. Транспартны сродак. 29. Радыёлакатар. 32. Чараўнік. 34. Земнаводная жывёліна. 36. Земляроб.

*Адказы на крыжаванку, змешчаную ў №40.*

**Па гарызанталях:** 1. Вагон. 8. Кабан. 10. Карал. 11. Казак. 12. Камар. 13. Рагоз. 14. Ладан. 17. Баран. 18. Дадатак. 19. Шар. 20. Маг. 23. Дынаміт. 26. Рацыя. 28. Капот. 31. Каран. 32. Радар. 33. Голад. 34. Навар. 35. Факір. 36. Нарыс.

**Па вертыкалях:** 1. Бакал. 2. Горад. 3. Базар. 4. Закон. 6. Гамак. 7. Нарад. 8. Карак. 9. Багач. 15. Натацыя. 16. Вал. 17. Баравік. 21. Дах. 22. Парок. 23. Дынар. 24. Таран. 25. Водар. 26. Рагач. 27. Цалік. 29. Павал. 30. Тарыф.

ВАНДРОЎКІ

# Бычкі! Бычкі! Камбала!..

***Пасля трэцяга курса нас, будучых настаўнікаў, адпраўлялі на абавязковую практыку ў піянерскі летнік. Давялося і мне пакаваць чамадан. Дзякуючы таму, што сур'ёзна займаўся спортам, трапіў ажно ў Крым, у летнік "Алые паруса". Ён месціўся на невялічкіх вапнавых скалах і таму як быццам навісаў над морам.***

Першае, што я зрабіў, калі ўбачыў блакітную бясконцасць мора, – пайшоў купацца. Ёсць у мяне звычка пераплываць рэчку ці возера, дзе першы раз купаюся. Мора, вядома, не пераплыў, але крыху паганяўся за дэльфінамі.

У гэты час мае аднакурснікі дзялілі месцы піянерважатых і выхавацеляў. Дырэктар прачытаў і маё прозвішча, не пачуў "Я!" і крыва пасміхнуўся. Калі я вярнуўся з мора, сябры паведамілі,маю новую пасаду: грузчык! З наступнымі абавязкамі: раніцой з'ездзіць у райцэнтр па прадукты, загрузіць іх, прывезці ў летнік і разгрузіць.

У першы ж дзень пасля работы я сабраўся на рыбалку. Загадчык гаспадаркі (з мясцовых) параіў адправіцца за бычкамі (памятаеце, з кінафільма «Белеет парус одинокий»: «... Бычкі! Бычкі! Камбала!..»). У якасці прынады ўзяў кавалак свініны з паўкілаграма.

Спусціўся да мора, адрэзаў два невялікія кавалкі мяса, начапіў на кручкі і закінуў – але не вуду, бо лёска была проста прывязаная да ўказальнага пальца левай рукі, паплаўка наогул не было.

Як толькі лёска нацягнулася, я адчуў невялікія штуршкі, выцягнуў. На двух кручках сядзела два бычкі сантыметраў па 15. Гэта радавала. Але калі я адвярнуўся па мяса, то ўбачыў, як вялізная марская чайка схапіла кавалак свініны і паляцела.

Рабіць не было чаго, таму я ўзяў маску і нырнуў за мідыямі. Назбіраў з дзесятак невялічкіх. Раскалоў, начапіў, закінуў і... зноў два бычкі. Стала цікава. Я насунуў маску і зазірнуў у ваду. На глыбіні 3 метры сотні бычкоў, адштурхоўваючы адзін аднаго, хапалі прынаду. Тут і пачалося. Я закідваў і вымаў, закідваў і вымаў...

Праз 15 хвілін мідыі скончыліся. Я ўзяў бычка, нарэзаў яго на дробныя кавалачкі і закінуў. Гісторыя паўтарылася. За дзве гадзіны злавіў амаль цэлае вядро – каля 120 бычкоў. Што рабіць з такой колькасцю рыбы – навучыў «заўхоз». Глядзіце ніжэй!

СМАЧНА ЕСЦІ

Рыбу проста ў вядры пасаліць, дадаць крыху цукру, крыху цэдры апельсіна і з чарку каньяку. Саліць суткі. Потым правяліць у ценю на ветры дні з тры.

Бычкі атрымліваюцца смачныя, тлустыя, таму даводзіцца аблізваць пальчыкі!

*Ігар КІЦІКАЎ.*

ПРОСТА АНЕКДОТ

Вядомае «Поле Цудаў» на ОРТ. У гульні ўдзельнічае мужычок, які ведае абсалютна ўсё. Усе словы адгадвае, нават барабан не круціць.

І вось фінал. Суперпрыз – кватэра ў Маскве. Гледачы ў студыі заміраюць.

Якубовіч:

– Такім чынам, пытанне з гісторыі (глядзіць у паперку). Наогул, яно, па–сутнасці, складаецца з двух пытанняў (глядзіць на рэжысёра, які яму нешта падказвае). Калі вы адкажаце на абодва, то да суперпрыза – кватэры ў Маскве – мы дадаем (паўза)... аўтамабіль! Вы згаджаецеся?

Мужычок, натуральна, згодны. Якубовіч глядзіць у паперку:

– Ведаеце, на мой пагляд, другое пытанне будзе лягчэйшае за першае. І з якога пачнем?

Мужычок:

– Ну, давайце тады з другога.

Якубовіч (урачыста):

– Прашу поўную цішыню ў студыі! Такім чынам, другое пытанне: «... і ў якім годзе гэта было?» Хвіліна пайшла...

ЖЫЦЦЁВЫЯ ПЫТАННІ

– Калі да тэфлону нічога не прыліпае, то як яго прыклейваюць да патэльні?

– Чаму самалёты не робяць з таго ж матэрыялу, што і «чорныя скрыні» да іх?

– Калі слова няправільна напісанае ў слоўніку, то як пра гэта можна даведацца?

– Якога колеру хамелеон, калі глядзіцца ў люстэрка?

– Чаму балерыны ўвесь час устаюць на дыбачкі? Ці не прасцей запрасіць танцорку, вышэйшую ростам?

– Навошта камікадзе нацягваюць шлемы?

НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ

# У абарону свайго гонару

Пакінуў Вінцук жонку з дзіцем, а сам пайшоў на фронт. У баях з фашыстамі быў цяжка паранены. На перадавую больш не трапіў, працаваў на заводзе ў глыбокім тыле. Пра свайго мужа Святлана нічога не ведала, бо жыла на тэрыторыі, занятай ворагам.

Калі прыйшла Перамога, Вінцук заставаўся працаваць на тым жа заводзе, бо і там патрэбныя былі дужыя рукі. Дадому пісаў пісьмы, запрашаў Святлану з дачкой пераехаць да яго на жыхарства. Атрымаў адмову. Святлане прыглянуўся новы старшыня калгаса. Пачаліся патаемныя сустрэчы. Як вынік, нарадзілася дзіця, якое, праўда, адразу памерла. Пра гэта сваякі Вінцука паведамілі ў сваім лісце. Глыбока пакрыўджаны быў салдат, але ў пісьмах дадому не падаў выгляду, што ведае пра паводзіны жонкі.

Нарэшце, Вінцука звольнілі з завода, і ён паспяшаўся на радзіму. Святлана ветліва сустрэла, ні слова пра свае паводзіны. Вінцук жа прыкмеціў, як старшыня калгаса гутарыць каля канюшні з калгаснікамі, і падаўся да гэтага месца.

Старшыня ветліва адказаў на прывітанне Вінцука, спытаў, якую пасаду хацеў бы атрымаць, ці мае намер некаторы час адпачыць, прыстасавацца да вясковага жыцця.

– Адкажу на пытанні і прапановы, калі зойдзем да мяне ў хату, – шапнуў Вінцук.

Прапанову адзначыць вяртанне да сям'і былога салдата кіраўнік калгаса прыняў з вялікім задавальненнем, з разлікам на пачастунак.

» Калі гаспадар і госць сядзелі за сталом з налітымі чаркамі, Вінцук схапіў загадзя падрыхтаваны тоўсты гумовы шланг і з усяе сілы агрэў старшыню. Той ад нечаканасці знямеў, а затым кінуўся наўцёкі, бо атрымаў новы ўдар. Што ёсць сілы ўцякаў старшыня, а наўздагон чулася:

– Спакуснік! Да жонкі франтавіка...

Пасля такой падзеі збегла жонка да бацькоў. Вінцук застаўся жыць з дачкой. Старшыня калгаса звольніўся па ўласным жаданні: захварэў.

*Міхась ЧАРНЯЎСКІ.*

НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ

# Рэкамендавана прэсай

У адным з ліпеньскіх нумароў адна з цэнтральных газет рэкамендавала ўсім, хто купаецца ў Нарачы, пасля выхаду з вады адразу прымаць душ ці абцірацца спіртам (у вадзе знаходзіцца шмат паразітаў, якія ўпіваюцца ў цела).

Адзін з адпачываючых пасля добрай дозы "Празрыстай" (піў разам з сяброўкамі і сябрукамі) прыйшоў на чарговы прыём да ўрача санаторыя "Будаўнік".

– Вы, паважаны, – кажа ўрач, – прыехалі на курорт лячыцца і адпачываць, а не пускаць грошы на моцныя напоі. Ад вас за вярсту нясе перагарам.

– Што вы, доктар! Я не піў нічагусенькі, а толькі па рэкамендацыі рэспубліканскай газеты пасля купання ў Нарачы абціраў цела спіртам, каб змыць розных там паразітаў, якіх напладзілі птушкі. Яны ж не маюць туалетаў, а ўсё ў ваду, у ваду.

– Ці не вас я бачыў, як сыходзілі па мосціку з кацера–рэстарана?

– Як вы маглі пра мяне так падумаць, доктар? Вы памыліліся. Мая нага на той кацер не ступала, бо пуста ў кішэні.

У чэрвені чытаў у іншай газеце, што на тым вадзяным рэстаране абед на адну асобу каштуе паўтара–два мільёны рублёў.

Доктар параіў:

– Гэта добра, што шмат чытаеце газет. Але на наступны прыём прыходзьце толькі пасля душа, не абцірайцеся спіртам, вязіце яго дамоў.

Здзіўленымі вачыма глядзеў пацыент на доктара. Прамаўчаў.

*Міхась ЧАРНЯЎСКІ.*

# Яна і ты

**Жанчына** заплаціць 1 мільён за двухмільённую рэч, якая ёй не патрэбная.

**Мужчына** заплаціць 2 мільёны за мільённую рэч, якая яму патрэбная.

ХАВАЙСЯ Ў БУЛЬБУ

# Чысціня – залог здароўя

***Знаёмы ўрач (былы рэаніматар), які расказаў гэтую гісторыю, сцвярджае, што ўсё было на самой справе. Хаця, натуральна, лепш прыпісаць усё добра развітаму «чорнаму гумару» гіпакратаў і парацэльсаў.***

У рэанімацыйным аддзяленні адной з клінік раненька ў пятніцу адышоў на той свет пацыент (у знаёмага гэта гучала, як «кліент»). Бывае.

Роўна праз тыдзень, у пятніцу, зноў памер пацыент, якога паклалі на тым самым ложку. Здзівіліся супадзенню і паклалі на гэтае месца наступнага (гучыць злавесна, згадзіцеся?) хворага...

Калі на раніцу ў пятніцу памер і гэты – устрывожыліся. Абследавалі ўсе сістэмы, праверылі, каб не было ў паветры вірусаў аніякіх. Усё нармальна.

Зноў змясцілі ў гэты ложак пацыента. Натуральна, у пятніцу ад раніцы ён сканаў. Тады здагадаліся пасадзіць дзяжурную медсястру – у чым жа справа, урэшце?!

У пятніцу, а дзевятай гадзіне раніцы ў палату ўвайшла прыбіральшчыца цётка Маша з пыласосам і спрактыкаваным рухам выцягнула з разеткі провад сістэмы жыццязабеспячэння пацыента.

Сталася, што яна рабіла так кожны раз: замест сістэмы яна ўтыкала пыласос, прыбірала, а затым нанова падключала ранейшы провад. З–за шуму пыласоса перадсмяротныя хрыпы пацыента чуваць не было...

*Сямён РАБІНОВІЧ.*

ГАРАСКОП 18 – 24 КАСТРЫЧНІКА

**АВЕН (21.03–20.04)**
Вам давядзецца хутка зарыентавацца ў сітуацыі, якая зменіцца. Не прыслухоўвайцеся да дарадцаў, прытрымлівайцеся ўласнай інтуіцыі.

**ЦЯЛЕЦ (21.04–21.05)**
Чакайце незвычайную прапанову. Скарыстайце сітуацыю з партнёрамі ці ў сям'і, не ўпусціце магчымасць добра і весела адпачыць.

**БЛІЗНЯТЫ (22.05–21.06)**
Падасца, што вас «крута» падмануць. Але гэта не так – прыйшоў час мяняць партнёра. Дзелавая актыўнасць павысіцца.

**РАК (22.06–23.07)**
Цэлы тыдзень у вас будзе жаданне збегчы з работы, каб бавіць час з партнёрам, пра сустрэчу з якім доўга марылі.

**ЛЕЎ (24.07–23.08)**
Атрымаеце даўно чаканыя грошы за работу, выкананую колькі месяцаў таму. Жнівеньскія Львы маюць усе шанцы праверыць свой прафесіяналізм на справе.

**ДЗЕВА (24.08–23.09)**
Калі вы яшчэ не памянялі месца работы, самы час гэта зрабіць. Сюрпрыз паднясе каханы чалавек. Парадуйце яго ў адказ сваёй увагай.

**ШАЛІ (24.09–23.10)**
Добра было б змяніць абставіны, інакш вы рызыкуеце ўпасці ў дэпрэсію. Паездку плануйце на пачатак тыдня. Выхадныя дні лепш правесці ў вялікай кампаніі, каб пазбегнуць сваркі з партнёрам.

**СКАРПІЁН (24.10–22.11)**
Непрыемнасці на рабоце так вас засмуцяць, што вы забудзецеся на ўсё астатняе. Удача ўсміхалася вам доўга – цяпер яна робіць невялікі перадых.

**СТРАЛЕЦ (23.11–21.12)**
Сітуацыя складваецца не так, як вы чакалі. Але гэта не азначае, што ўсё кепска. Невялікае намаганне – і вы прыйдзеце ў норму.

**КАЗЯРОГ (22.12–20.01)**
Засмуцяць родныя ці дзеці сваімі хваробамі – давядзецца займацца сям'ёй. Даверце бізнес партнёрам, так будзе лепей для ўсіх.

**ВАДАЛЕЙ (21.01–19.02)**
Вы будзеце поўнасцю задаволеныя вынікамі сваёй работы і стасункамі ў сям'і.

**РЫБЫ (20.02–20.03)**
На гэтым тыдні і жанчыны, і мужчыны–Рыбы пачуюць прызнанне ў каханні. Калі першых гэта парадуе, то другія захочуць куды–небудзь збегчы.

*КАМЕНТАРЫЙ СПЕЦЫЯЛІСТА*

# Абараніць дзяцей ад маньяка можна

***У №40 "РГ" ад 1 кастрычніка была змешчаная інфармацыя "Маньяк зноў на паляванні". У шосты раз за апошнія месяцы злачынца ўводзіць шпрыцам невядомую вадкасць адпачываючым у аздараўленчых летніках. Апошні раз – 10–гадовай магілёўчанцы, што адпачывала ў адукацыйна–аздараўленчым комплексе "Надзея – XXI стагоддзе" пад Будзішчамі на Вілейшчыне.***

***У мінулым нумары свае меркаванні выказаў псіхатэрапеўт Сяргей Цвірко. Сёння наконт таго, ці можна сіламі выхавацеляў, адміністрацыі летнікаў папярэдзіць жудасныя ўчынкі, гавораць начальнік летніка "Сонейка", што на Валожыншчыне, Наталля Штэйнер і выхавацель летніка "Лясны гарадок", што паміж Маладзечнам і Вілейкай, Алена Сушко.***

– Абараніць дзяцей ад маньяка сіламі выхавацеляў і адміністрацыі летніка складана, але можна, – упэўненая **Алена Сушко**. – У "Лясным..." мы ўвесь час папярэджвалі: калі хто ўбачыць у корпусе незнаёмца, адразу нас, дарослых, трэба клікаць. А ўвечары – тым больш. Няма дарослых – хаця б шум падняць.

Пасля адбою мы наладжвалі ў фае дзяжурствы выхавацеляў. Зачынялі на ўсіх трох паверхах форткі. Пабудова спальных карпусоў такая, што можна заскочыць на балкон першага паверха, а потым, моцна не азіраючыся, – у фортку. Удзень старэйшыя атрады дзяжурылі на ўваходах у карпусы.

Па ўсім відаць, што маньяк добра знаёмы са спецыфікай летнікаў. А калі ўлічваць, што ўкол робіць прафесійна і лёгка з дзецьмі знаходзіць кантакт, можна меркаваць, што злачынца працаваў медыкам у летніках. Хутчэй за ўсё, гэта псіхічна хворы чалавек, які лічыць сябе вялікім вынаходнікам і спрабуе сваё "вынаходніцтва" на дзецях. Можа і такая быць версія. Паколькі коле ён дзяўчынак амаль аднолькавага ўзросту, можна меркаваць: у яго ёсць жонка і дзіця, якія жывуць асобна ад яго. Вось ён і помсціць сваім родным.

– Абараніць дзяцей ад маньяка можна, калі летнікі правільна будуць выкарыстоўваць штатны расклад, – гаворыць начальнік летніка "Сонейка" **Наталля Штэйнер**. – Напрыклад, падменнага выхавацеля, які не ведае, дзе сабе знайсці прымяненне, лепш было б зрабіць начным выхавацелем.

У нас летнік быў на базе Вішнеўскай участковай бальніцы. З вечара корпус замыкаўся. А ўсю ноч ля пакояў дзяжурылі медсястра і санітарка. Вокны мы таксама зачынялі знутры. Так што не вельмі і хваляваліся.

***Віталь КРУПЯНЬКОЎ.***

*КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА*

# Праверана: мін няма

Хваля "тэлефоннага тэрарызму" дакацілася да Смаргоні. У пачатку года было два тэлефонныя званкі пра тое, што замініраваны будынак Смаргонскага райвыканкома. Здарылася гэта 11 лютага і 22 сакавіка гэтага года. Будынак быў ачэплены міліцыяй, усе супрацоўнікі выканкома разышліся па дамах. Прыбылі спецыялісты па размініраванні з Гродна. Ніякіх выбуховых прыстасаванняў знойдзена не было.

У абодвух выпадках званкі былі з Гродна і тэлефанавалі ў абласное УУС. Таму крымінальныя справы па гэтых фактах былі ўзбуджаныя ў Гродне і злачынцаў шукае гродзенская міліцыя.

А 20 верасня каля $13^{30}$ раздаўся тэлефонны званок у дзяжурнай часці Смаргонскага РАУС. Дзіцячы голас паведаміў, што замініраваная школа №5 па вуліцы Сініцкага, мікраён Усходні. Вызначыць злога жартаўніка для міліцыі не склала цяжкасці. Ім аказаўся 12–гадовы вучань 7 класа гэтай школы Аляксандр. Ён патэлефанаваў у міліцыю, калі збіраўся ісці ў школу. Па яго словах, ён вырашыў пажартаваць, не думаючы пра наступствы. Ніякага выбуховага прыстасавання не было, таму заняткі ў школе прайшлі, як заўсёды.

Крымінальная справа не ўзбуджалася, таму што Аляксандр не дасягнуў узросту крымінальнай адказнасці. На маці склалі адміністрацыйны пратакол за дрэннае выхаванне сына. Пастановай камісіі па справах непаўналетніх пры райвыканкоме яна аштрафаваная на 1 мільён рублёў. Бязглуздыя жарты дрэнна заканчваюцца.

***Мікіта ЛІСТАПАД.***

*СПОРТ НА ВЫТВОРЧАСЦІ*

# Жаночы футбол на "Белмастацкераміцы"

РАДАШКОВІЧЫ. **Аляксандр Шуляк** – інструктар па фізкультуры і спорце на ААТ "Белмастацкераміка". З 1978 года ён працуе ў Граніцкай СШ, з 1982 – у Радашковічах. Прадпрыемства рэгулярна выстаўляе свае каманды на раённыя, абласныя спаборніцтвы.

У прыватнасці, сярод 20 каманд мясцовай прамысловасці і КБА на першынстве Мінскай вобласці па міні–футболе выйшлі на 6 месца. Сёлета паспяхова выступілі на рэспубліканскіх спаборніцтвах Васіль Раманчык (II месца па стральбе і ў бегу на 100 м), Таццяна Семянец (I месца у кросе на 1 км і III месца ў стральбе са 100 м), Ларыса Лапіна (I месца ў кросе на 1 км і II месца ў бегу на 100 м).

**– Кажуць, дырэктар вашага прадпрыемства добра гуляе ў баскетбол?**

– Так, гэта, можна сказаць, ветэран баскетбола. Дарэчы, галоўны інжынер Генадзь Афанасенка – лепшы валейбаліст прадпрыемства.

**– На "Белмастацкераміцы" аб'яўлены набор у жаночую футбольную каманду. Жаночы футбол адрозніваецца ад мужчынскага па правілах, прыёмах гульні?**

– Не. Адрозненне адно – склад каманды. Рыхтаваць жаночую каманду па футболе будзе трэнер з Маладзечна Віктар Бандарэнка. У радашковіцкай СШ камплектуем таксама каманды па жаночым футболе, пачынаючы з 3–4 класа.

**– З 1 кастрычніка раённы цэнтр гігіены і эпідэміялогіі закрыў спартзалу ў СШ Радашковічаў, дзе праходзілі вашы трэніроўкі. Што будзеце рабіць? На вуліцы ў такое надвор'е, калі дожджык імжыць, не надта пабегаеш.**

– Прадпрыемства арандуе базу адпачынку летніка "Брыганціна" на час падрыхтоўкі да спаборніцтваў: спартзала, басейн. Будзем ездзіць туды, па магчымасці; хіба што аўтобус усіх жадаючых не змесціць, ды і з бензінам, самі ведаеце, якія праблемы.

***Надзея ЛІСАВА.***

# Бульбу выкапалі...

ФОТА ІГАРА МАРОЗА.

*ВАДА*

# Вілейскае вадасховішча чакае дажджу

Апошнія два месяцы штотыдзень езджу на Мінск праз Сосенку. Каля 10 кіламетраў дарогі праходзіць па дамбе, што абмяжоўвае Вілейскае вадасховішча. Таму добра прыкметна, як наша "мора" з кожным днём мяльчэе.

З–пад вады з'явіліся дзесяткі астравоў, меляў і кос. Каля Сосенкі добра відаць старая дарога, якая знікае з аднаго і з'яўляецца з іншага боку "мора". Малая вада агаліла старыя грахі будаўнікоў вадасховішча: нейкія пліты, скручаную арматуру і тысячы карчоў, за якія, па словах аднаго ўдзельніка будаўніцтва вадасховішча, было заплачана, і якія павінны быць выкарчаваныя і вывезеныя. Але ці грошы зніклі, ці тэрміны пуску вадаёма падціскалі, а карчы да гэтага часу ў вадасховішчы.

Па дамбе добра відаць (на бетоне адлюстроўваецца ўзровень), што вада ўпала амаль на 2 метры, што пры плошчы вадасховішча 64600000 м² яна складае 129200000 м³ ці 54% ад агульнага аб'ёму вадасховішча.

Такое моцнае падзенне вады значна пагаршае яе якасць, што, у сваю чаргу, можа прывесці да экалагічнай катастрофы: напрыклад, можа здарыцца мор рыбы і распаўсюджванне кішэчнай інфекцыі (думка аўтара як прафесійнага географа). Затое птушкам раздолле. Качкі і чайкі нават не плаваюць па вадзе, а ходзяць па мелі і збіраюць малькоў, рыбу і дробных беспазваночных. Чаплі нават не адлятаюць у Афрыку – так многа ежы.

Застаецца толькі адно: чакаць дажджоў.

***Ігар КІЦІКАЎ***

*ВАМ НЕАБХОДНА НА ПРЫЕМ ДА ЮРЫСТА ...*

# Як купіць тавар даражэй?

***У рамках праграмы "У падтрымку прававой асветы і юрыдычнай абароны грамадзянскіх правоў у Беларусі" пры падтрымцы Фонду Еўразія за кошт сродкаў, прадастаўленых The Charles Stewart Mott Foundation, праводзіцца бясплатная юрыдычная дапамога грамадзянам па звароце з юрыдычнымі пытаннямі ў розныя арганізацыі.***

У наш рыначны час даволі шмат грамадзянаў звяртаецца ў Грамадскую прыёмную з пытаннямі, звязанымі з крадзяжом грошай шляхам падману альбо злоўжывання даверам (махлярства).

Махляры карыстаюцца слабасцямі людзей. Гэтым займаюцца і юрыдычныя асобы. Некалькі спрытнякоў адкрываюць сваё прадпрыемства, філіял альбо прадстаўніцтва. Часцей за ўсё выкарыстоўваюць ці прыкрываюцца назвай якой-небудзь гучнай заходняй фірмы. Выдаткоўваюцца вялікія грошы на салідную рэкламу, пры гэтым выдаюць сябе ледзь не за ўрадавую структуру.

Тавар прапануецца такім коштам, улічваючы слабую пакупніцкую здольнасць нашых грамадзян, каб 70-80 працэнтаў пакупнікоў не ў сілах былі купіць яго, сплаціўшы ўсю суму кошту. Калі ёсць тавар меншага кошту, то прапануецца камплект тавараў на такую ж суму. Гэта адно з абавязковых умоваў падману і робіцца гэта дзеля таго, каб той, хто "клюне" на рэкламу, быў не ў стане заплаціць за тавар увесь кошт адразу.

Далей прапануецца купіць тавар за крэдыт "наадварот". Гэта значыць, што тавар выдаецца пакупніку толькі пасля поўнай выплаты яго кошту. Разам з тым, першы і некалькі наступных узносаў застаюцца цалкам даступнымі.

Прапануюць падпісаць дагавор, па якім пакупнік абавязуецца ўносіць кошт тавару па частках ва ўмоўных адзінках па курсе, выдуманым прадаўцом (не па курсе НБ РБ). Па якім курсе будзе рабіцца разлік ў выпадку скасавання дагавору, нічога не гаворыцца. Атрымліваецца, што пакупнік да выплаты ўсёй сумы кошту яшчэ і бясплатна крэдытуе прадаўца.

Цяпер адна з асноўных умоваў - у сярэдзіне якога-небудзь пункта (каб не кідалася ў вочы) запісываецца прапанова аб тым, што, калі пакупнік скасоўвае дагавор, то ён абавязаны выплаціць прадаўцу штраф у памеры, напрыклад, 25 % кошту тавару.

Галоўная мэта работнікаў прадаўца – выцягнуць з пакупніка гэтыя 25 % кошту тавару. Для гэтага яны ідуць на любыя хітрыкі: прапануюць пакупніку (толькі для яго) закрыць вочы на пропускі чарговых тэрмінаў выплаты ўзносаў, выдумляюць якоесьці "закансерваванне" дагавора да з'яўлення ў пакупніка магчымасці ўнесці чарговы ўзнос. Усе гэта застаецца толькі на словах, ніякія пісьмовыя змяненні ў дагавор не ўносяцца.

Як толькі выплата ўзносаў дасягне заветнай сумы 25% кошту тавару, уся прыязнасць прадаўца спыняецца. З гэтага моманту пакупніка папярэджваюць аб яго неплацежаздольнасці. Яму выстаўляюць рахунак, па якім ён яшчэ застаецца вінен прадаўцу. Пасля знаёмства з такім рахункам у пакупніка ўзнікае жаданне ўсё кінуць і ўцякаць. Дагавор скасоўваецца, а сума ў 25 % кошту тавару застаецца ў спрытных прадаўцоў.

Паважаныя грамадзяне, калі камусьці захочацца выкласці свае грошы, не атрымоўваючы адразу тавар, прачытайце спачатку вельмі ўважліва праект дагавора, а яшчэ лепш, парайцеся з юрыстам.

Дапамога грамадзянам па звароце з юрыдычнымі пытаннямі праводзіцца па рабочых днях з 16 да 20 гадзін, акрамя панядзелка, для іншагародніх – па суботах з 10 да 14, па адрасе: Маладзечна, вул. Хмяльніцкага,10, 3 паверх.

Тэлефон для даведак (01773) 6-47-91.

***Аляксей ХВОСЦІК, юрыст.***

